# НАВІНЫ

**БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ „АДРАДЖЭНЬНЕ“**

14 ' 1989 — 20 лістапада.

**ДВАНАЦЦАТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТУ БССР ПРЫНЯЛА ЗАКОНЫ БЕЛАРУСКАЙ ССР «АБ ЗМЯНЕННЯХ І ДАПАЎНЕННЯХ КАНСТЫТУЦЫІ (АСНОЎНАГА ЗАКОНА) БЕЛАРУСКАЙ ССР», «АБ ВЫБАРАХ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ МЯСЦОВЫХ САВЕТАЎ НАРОДНЫХ ДЭПУТАТАЎ БЕЛАРУСКАЙ ССР». НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ВЫНІКІ ПАПЯРЭДНЯГА АБМЕРКАВАНЬНЯ ЗАКОНАПРАЕКТАЎ, ПЕРАКАНАЎЧЫЯ ВЫСТУПЫ МНОГІХ ДЭПУТАТАЎ, БУРНЫЯ ПРАТЭСТЫ ГРАМАДЗКАСЬЦІ Ў ДНІ СЕСІІ ПЕРАД ДОМАМ УРАДУ, ПРАВА ВЫБАРАЎ АД ГРАМАДЗКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ НЕ БЫЛО СКАСАВАНАЕ. АЛЕ ЯГО АТРЫМАЛІ ТОЛЬКІ БЕЛАРУСКІ САВЕТ ВЕТЭРАНАЎ ВАЙНЫ І ПРАЦЫ, ТАВАРЫСТВЫ СЬЛЯПЫХ, ГЛУХІХ І ІНВАЛІДАЎ. ПЕРАДВЫБАРЧЫЯ АКРУГОВЫЯ СХОДЫ НА БЕЛАРУСІ ПРАВОДЗІЦЦА НЯ БУДУЦЬ.**

**Канае мафіёзная «ідэя».**
**Шукае адвакатаў атаман.**
**Хто ж будзе бараніць цябе, Вандэя?**
**Сьляпы, глухі, нямы ды... «ветэран».**

Голас народа зарыфмаваў Вядзьмак Менскі.



**26 кастрычніка, МЕНСК. Плошча Леніна.**

## КРОНІКА

✦ **29 жніўня,** СЬВЕТЛАГОРСК. У лістападзе гэтага года тут плануюць пачаць будаўніцтва Дома савецкіх і партыйных работнікаў (райкама, гарвыканкама, райвыканкама). Агульны кошт гэтага пасьлячарнобыльскага архітэктурнага цуда 3 мільёны 247 тысячаў рублёў. Лагічным завяршэньнем перабудовы цэнтральнай плошчы Сьветлагорска стане ўстаноўка 15-метровага помніка Леніну (гэта трошкі вышэй за 5-павярховы дом), які абыйдзецца мясцовым жыхарам яшчэ ў 200 тысячаў рублёў. Зварот да старшыні Сьветлагорскага гарсавета А. Якабсона і першага сакратара гаркама А. Просіна з патрабаваньнем скарыстаць гэтыя грошы на ліквідацыю вынікаў Чарнобыльскай катастрофы падпісалі 1089 жыхароў горада. Аналагічны зварот быў накіраваны ў Вярхоўны Савет БССР. Аднак вестак пра станоўчыя перамены мы пакуль не маем.

(Паводле А. Сіліча).

✦ **7 кастрычніка,** НАВАПОЛАЦК. Мітынг, прысьвечаны абмеркаваньню законапраектаў аб выбарах быў наладжаны гарадзкой Радай БНФ. На наступны дзень арганізатарам мітынгу А. Куліку і В. Храмцову органамі РАУС былі дасланыя позвы ў міліцыю з нагоды прыцягненьня іх да адказнасьці за выкарыстаньне бела-чырвона-белага сьцяга.

**(Працяг на стар. 2)**

## КРОНІКА

(Працяг са стар. 1)

■ **22 кастрычніка,** НАРОЎЛЯ. Адбыўся чарговы агульнагарадзкі мітынг, на якім была прынятая рэзалюцыя з патрабаваньнем тэрміновага адсяленьня жыхароў горада з радыяцыйна небясьпечнай зоны. «Калі адпаведная пастанова не будзе прынятая на дванаццатай сесіі Вярхоўнага Савета БССР, будзе абвешчаная агульнагарадзкая забастоўка аж да таго часу, пакуль гэткая пастанова ня будзе зацьверджаная», — гаворыцца ў рэзалюцыі.

У канцы месяца ў гарадах Беларусі адзначаўся Дзень памяці продкаў «Дзяды».

■ **28 кастрычніка,** ВОРША. «Аршанцы! Нашчадкі слаўных дзядоў і прадзедаў нашых! Ці зьнясілелі мы, ці дух наш саслабеў, ці сэрцы скамянелі? Мо досыць курчыцца пад вечным страхам, канаць у бязьвер'і Адзначым восеньскія Дзяды — дзень ушанаваньня памяці продкаў!..» — адозва з гэтымі словамі сабрала жыхароў горада на Кабыляцкай гары. На месцы сталінскіх расстрэлаў у 30-я гады леглі кветкі.

■ **29 кастрычніка,** БАРАНАВІЧЫ. Прадстаўнікі гарадзкой Рады БНФ усклалі кветкі да помніка паўстанцам 1863 года, што знаходзіцца пад Мілавідамі. Затым наведалі вёску Калдычэва, дзе пад час вайны знаходзіўся фашысцкі канцэнтрацыйны лагер. Кветкі былі ўскладзеныя і ля гарадзкой турмы (месца не зьмянілася), дзе ў гады сталінскага генацыду катавалі жыхароў Беларусі. Увечары ля Баранавіцкага касьцёлу памяць палеглых была ўшанаваная «гадзінай смутку».

■ **29 кастрычніка.** ГАРОДНЯ. Калона дэманстрантаў з нацыянальнымі сьцягамі, харугвамі з гербамі гарадоў Беларусі рушыла да Вайсковых могілак. Па дарозе былі ўскладзеныя кветкі да помнікаў Элізы Ажэшкі і Янкі Купалы. Жалобны мітынг, у якім узялі ўдзел былыя вязьні Гулага, маладыя беларускія паэты, а таксама намесьнік старшыні БНФ «Адраджэньне» Ю. Хадыка, адкрыла Д. Бічэль-Загнетава. На дзіва, мітынг быў санкцыянаваны.

■ **29 кастрычніка,** МАГІЛЁЎ. Мітынг-рэквіем «Дзяды» арганізаваны мясцовай філіяй «Мартыралога Беларусі», пачаўся з урачыстага ўсталяваньня крыжа, асьвечанага мясцовым сьвятаром. Крыху раней у саборы на Быхаўскім рынку адбылося набажэнства ў памяць бязьвінна закатаваных у 30-я гады беларусаў. Жалобны мітынг вёў народны дэпутат СССР С. Габрусеў. З прамовай выступілі сябра сойму БНФ А. Вольскі і прадстаўнік Канфедэрацыі Беларускіх Суполак С. Вітушка. Мітынг працягваўся на магіле Ц. Гартнага, якую нядаўна адшукала Магілёўская філія «Мартыралогу Беларусі».

■ **21—23 лістапада,** МЕНСК. Адбыўся рэспубліканскі студэнцкі форум. Ягонымі арганізатарамі выступілі ЦК ЛКСМБ, Міністэрства асьветы і Белсаўпраф. Цяжка сказаць, што ставіла сабе на мэце гэтае мерапрыемства, бо прадстаўнікі сярэдніх сьпецыяльных і вышэйшых навучальных установаў цягам двух дзён не змаглі грунтоўна абмеркаваць ані праблемы студэнцтва, ані перспектывы іх вырашэньня. З шасьці рэзалюцыяў, распрацаваных удзельнікамі дыскусіі, была прынятая найменш зразумелая: праз год склікаць новы форум. Хутчэй за ўсё, зноў спрацаваў бюракратычны механізм стварэньня ілжэграмадзкіх структур, мэта якіх—перакрыць шлях дэмакратычнай ініцыятыве, якой, дарэчы, у студэнцкім асяродку яшчэ і не патыхае. Пакуль ня ўзьнікне сам студэнцкі рух, немагчыма вызначыць ні мэты ягоныя, ні задачы. А вось мэты бюракратычнага апарату, як заўсёды, зразумелыя, чаго ня скажаш пра выступ Я. Сакалова, удзел якога ў студэнцкім форуме не стымуляваў узьнікненьня новых ідэяў.

**Падрыхтаваў Алесь Гуркоў.**

## ЗА МЕЖАМІ

**ЛОНДАН.** Нядаўнія пратэсты ў звычайна спакойнай рэспубліцы Беларусі, — паведаміла 4 кастрычніка агенцтва «Рэйтар», — адлюстроўваюць хутчэй за ўсё незадаволенасьць кансерватыўным мясцовым урадам, чым глыбокае жаданьне незалежнасьці, выказанае суседнімі балтыйскімі рэспублікамі. У апошнюю суботу 15 000 людзей парушылі афіцыйную забарону і правялі бяспрыкладны марш пратэсту праз цэнтр Менску, патрабуючы ад мясцовых уладаў больш займацца ліквідацыяй наступстваў Чарнобыльскай атамнай катастрофы 1986. Потым яны спыніліся на галоўнай плошчы сталіцы Рэспублікі і заклікалі да звальненьня з пасады боса мясцовай партыі Яфрэма Сакалова.

БНФ — адзін з апошніх нацыянальных рухаў, якія ўзьніклі паўсюль у Савецкім Саюзе і патрабуюць большай палітычнай вольнасьці. «Беларусы вельмі асьцярожныя. Яны чакаюць, хто пераможа, і потым будуць імкнуцца стаць лепшымі сябрамі пераможцы,» — сказаў адзін расейскі пісьменьнік, які жыве ў Менску апошнія 20 гадоў, але папрасіў не называць яго імя. Нацыянальныя пачуцьці і патрабаваньні незалежнасьці ў суседніх балтыйскіх рэспубліках на поўначы настолькі моцныя, што камуністы там далучаюцца да некаторых ідэй руху, каб пазьбегнуць палітычнай сьмерці.

Але 10 мільёнаў чалавек у заходняй рэспубліцы Беларусі на граніцы з Польшчай не жадаюць большага, чым зьменаў на вяршыні мясцовай партыі і шырэйшых правоў у кіраваньні мясцовымі справамі. У адрозьненьні ад іншых сав. рэспублік Беларусь ні на адным з этапаў сваёй гісторыі не была незалежнай, — сьцьвярджае «Рэйтар»,— і, нягледзячы на патрабаваньні БНФ надаць беларускай мове статус дзяржаўнай мовы, на ёй гавораць вельмі нямногія.

Актывісты і навукоўцы кажуць, што насеньне сёлетняга пратэсту было пасеяна ў мінулым кастрычніку, калі паліцыя разагнала мемарыяльны грамадзкі акт ушанаваньня ахвяраў дыктатара Іосіфа Сталіна. БНФ быў створаны адразу пасьля гэтага.

«Гэтая акцыя паказала палітычнае банкруцтва сістэмы тут,» — сказаў «Рэйтару» сябра-заснавальнік БНФ Зянон Пазьняк. Пісьменьнікі і сябры БНФ Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч казалі, што мясцовыя камуністычныя ўлады чыняць суровае ідэалагічнае супраціўленьне поўнаму выкрыцьцю Сталіна і ягоных злачынстваў. Але ж менавіта рэакцыя ўладаў на Чарнобыльскую катастрофу паклала канец цярплівасьці Рэспублікі, большая частка лёгкай прамысловасьці якой сьпецыялізуецца на вайсковай тэхналогіі і камп'ютэрах.

Удзельнікі акту пратэсту казалі, што мясцовыя ўлады наўмысна хавалі зьвесткі пра катастрофу і пераследвалі мясцовых актывістаў, якія патрабавалі высьвятленьня становішча з радыяцыяй. БНФ, які патрабуе неадкладнага адыходу ад улады кіраўнікоў мясцовай партыі, заяўляе, што Рэспубліцы пагражае катастрофа, калі ня будуць уводзіцца радыкальныя палітычныя рэформы. «Беларусь знаходзіцца ў палітычным крызісе, які ўзмацняецца ў апошні час. Урад ня мае аўтарытэту ў народа,» — сказаў Пазьняк у інтэрвью. Нават звычайна кансерватыўная «Праўда» прыядналася да атакі, асуджаючы кіраўнікоў мясцовай партыі ў ліпені за адсутнасьць сувязі з народам.

Але ў пісьмовых адказах на пытаньні «Рэйтара» мясцовы ўрад ацаніў палітычную сітуацыю ў Рэспубліцы як выдатна нармальную.

«Што здарылася на Украіне, адбудзецца і ў нас,» — сказаў Адамовіч «Рэйтару» ў сераду. У гэтым месяцы ветэран-бос Украінскай партыі Уладзімір Шчарбіцкі быў зьняты са свайго паста пасьля шырокай крытыкі ягоных састарэлых метадаў кіраваньня.

«Стары, некампетэнтны урад, які няздольны зьмяніць свае метады і ўстанавіць дэмакратычны дыялог з народам, прыгаворвае сябе да лёсу Ул. Шчарбіцкага,» — сказаў Адамовіч.

**Падрыхтаваў Валеры Буйвал.**

Зьніч

# СУМОЎЕ ДУШ ПАД КРЫЖАМ ПАКУТЫ Ў КУРАПАТАХ (Дзяды'89)

Было Набажэнства...

І ўсё ж: зачараваныя касьцямі й чарапамі — мы сьлепнем. Ускіпаем нянавісьцю, прагай помсты. І ня бачым Пачатак. Нас страшыць колькасьць. А яна ўмяшчаецца — у Адным.

Першы і Апошні, Каго мы павінны былі б памінаць на Дзядах, — Той, Хто быў укрыжаваны амаль дзьве тысячы год таму. Але і за такі час мала хто сапраўды жахнуўся таго, што род наш тады сатварыў. Што гэтым — і далейшым неразуменьнем гэтага — ён асудзіў сябе на такую гісторыю і такое яе завяршэньне.

...вякі плывуць...
а Ён — раскрыжаваны...
жывы... ў крыві цячэ цьвікоў
іржа...
і род людзскі, нячыстым
апантаны,
ня мае сілы зьняць Яго
з крыжа...

Укрыжаваўшы зьяўленую ў Сыне чалавечым Вечнасьць, упарта не жадаючы адчуць і ўсьвядоміць гэта, укленчыць і ўзяць на сябе ўсясьветны Грэх, — мы штодня працягваем бясконцае крыжаваньне Яе — ў сабе, ў прыродзе, ў сусьвеце ... Раскрыжавалі Волгу ... Салігорскае наваколье ... Арал ... паветра ... лясы ... Раскрыжавалі Цела народа — яго здароўе ... годнасьць ... культуру ... Тленнае спакусілася — татальным гвалтам — запанаваць над жывой гармоніяй Вечнага. А што не ўняволіцца — зруйнаваць, зьнішчыць!

### БЕСАВІКІ

(з Дастаеўскага і Булгакава)

Шарыка-Швоньдзерскі
канцлагер,
дарогу ў пекла — напрасткі! —
рукой жалезнай збудавалі
шалёныя бесавікі.
Найбагацейшую Краіну
ператварыла ў жабрака
і ў рабочую скаціну
тая крывавая рука.
І лёс наступных пакаленьняў —
канцлагерны. Да схілу дзён.
І судзьдзі нашы — Маркс
ды Ленін...
І каты — я... і ты... і ён...

### ВЫІСЬЦЕ ЗЬ БЕЗВЫХОДНАСЬЦІ

Бесавікі скрышылі Храмы.
Запанаваў у сьвеце хам.
А ты, народ, — пад Вострай
Брамай —
ператвары душу —
у Храм...






### КРАІНА ЛЯ ЎВАСКРОШАНЬНЯ

Ойча, нашто-ж пакінуў Мяне?..
**Апошняя зямная малітва**
**Хрыста**
Беларусь да Сябе клічаш
першаю...
**З сучаснай малітвы**

...на Чарнобыльскім Крыжы
ўкрыжавалі цьвікамі нябачнымі
Цела Бацькаўшчыны...
Кім сябе адчуваем —
Хрыстом ці разбойнікам —
брат мой з Хойнікаў?..
з Магілёўшчыны ці з-пад
Валожына —
у абдымках хмараў пасоджаных?
ты, Іуда, сьлінявы машэньнік —
на заслужаным павышэньні?..
ты, чавек кіравальная сіла —
у сусьветны астрог і магілу?..
вы, што яблыкам д'ябльскім —
уранавым —
спакушалі неадукаваных?..
мы — хто ціха, а хто з усёй
моцы
падпявалі нашым забойцам?..
Памілуй, Хрысьце, памілуй
нас — за разбой панылы...
ня ведалі — што тварылі...
Пустэча — нашы вярыгі...
...на Чарнобыльскім Крыжы мой
Край...
Хрысьце Божа, не пакідай...



# «ЧАРНОБЫЛЬСКІ ШЛЯХ»

**П а р т б о с с. А вы знаете, кто провоцировал все эти мятежи? Кто стоял за Гомельским бунтом — знаете?**

**У р о д. А чего ж тут не знать. Тридцать лет мутаций после Чернобыля — вот что и стояло. А уродам чего терять. Все равно резервация, права на выезд нет, медицинская диагностика засекречена, а газеты: все в порядке! телевидение: все в порядке! А детишки трехногие, безрукие. Вы знаете, что такое мутация? Это когда куры дичают, собираются в стаи и гоняются за лисами, загоняют и убивают.**

**«Радуга», 9 ' 1989**

Ідэя гэтага маршу нарадзілася ня ў нетрах Народнага Фронту і не ў галовах навукоўцаў, якія адчуваюць народную бяду і сваю адказнасьць перад народам. Гэтая ідэя нарадзілася ў самім народзе. Дэлегацыі прыязджалі ў Менск і раней. І толькі калі мы пераканаліся, наколькі блізкія мы да непрадказальнага сацыяльнага выбуху, тады БНФ «Адраджэньне» актыўна далучыўся да падрыхтоўкі «Чарнобыльскага шляху».

У зонах арганізаваліся ініцыятыўныя камітэты грамадскасьці, якія заняліся самавыратаваньнем. Іх спробы правесьці мітынгі, арганізаваць забастоўкі павінныя былі б прымусіць кіраўніцтва прыслухацца да гэтага голасу. На жаль, так ня здарылася.

Генадзь Грушавы,
старшыня камітэту «Дзеці Чарнобыля».

* * *

Мы далі тэлеграмы і запрасілі сюды кіраўнікоў нашага Ураду: Старшыню Прэзідыума Вярхоўнага Савета Мікалая Дземіньцея, Старшыню Савета Міністраў Міхаіла Кавалёва і Першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Сакалова. Першае слова мае таварыш Сакалоў... Ёсьць таварыш Сакалоў?.. Народ просіць вас выступіць... Запрашаем выступіць таварыша Дземіньцея... Запрашаем выступіць таварыша Кавалёва... Да нас не прыйшлі нашыя кіраўнікі, дык можа яны пачуюць нас там, за пустымі вокнамі Дома Ураду?... Не, нешта ня чуюць — не расчыняюцца гэтыя дзьверы і вокны...

Зянон Пазьняк,
старшыня Сойму БНФ.

* * *

На наш народ, на нашу Беларусь выпала вялікае гора. Гора большае, чым выпала на Украіну і на Расію... На жаль, праўдзівай, годнай інфармацыі пра гэта не было ў самым пачатку і няма да гэтага часу... Асобы, якія нясуць адказнасьць за тое ,што адбываецца ў Рэспубліцы, на жаль, не выступаюць ні перад вамі, ні перад грамадзкасьцю. У лепшым выпадку, іх можна пабачыць на экране тэлевізара...

Станіслаў Шушкевіч,
народны дэпутат СССР.

* * *

Мы жывем у такой дзіўнай краіне, дзе адна палова народа з сорамам час ад часу сустракаецца з другой. У 1956 годзе палова краіны з сорамам сустрэлася з той паловай, якая прыйшла з лагераў. Сёньня мы сустракаемся з паловай Беларусі, якая тры гады жыла за ўяўнай агароджай, за ўяўнай паласой. І зноў адчуваем сябе вінаватымі: ці дастаткова зроблена намі, навукоўцамі, пісьменьнікамі, журналістамі? Не. Ня зроблена.

Але, калі б сюды прыйшлі нашыя кіраўнікі, яны б паведамілі, як многа яны зрабілі. Яшчэ ў траўні 1986 г. я чуў ад М. Слюнькова праграму ўсёй, так бы мовіць, дзейнасьці. Тады мяне трохі зьдзівіла адна дэталь (яна, праўда, не задакументаваная, і чалавек можа адмовіцца): Мікалай Мікітавіч распавёў тады мне што ў Савеце Міністраў СССР украінцам, маўляў, параілі вучыцца ў беларусаў. А як беларусы? Мне было сказана: «Вось А. Ляшко, украінскі прэм'ер-міністр, паўтары гадзіны плакаўся і прасіў дапамогі, а наш М. Кавалёў за 10 хвілінаў пра ўсё дамовіўся. Гэтыя 10 хвілінаў дорага нам каштавалі.

Алесь Адамовіч,
народны дэпутат СССР.

* * *

У памяці, назаўсёды застануцца першыя дні аварыі, калі ў паветры насіўся задушліва горкі радыяцыйны пыл, а радыё, людзі,якія абавязаныя былі ўзьняць трывогу, маўчалі або супакойвалі, што нічога ня здарылася. Хто адкажа за тое, што нашыя дзеці, школьнікі ў дзень аварыі прыбіралі вуліцы горада. Хто адкажа за штодзённыя зборы школьнікаў на гарадзкім стадыне для рэпетыцыі першамайскай дэманстрацыі ў трагічным 1986-м? Хіба гэта не злачынства супраць дзяцінства? Супраць будучыні беларускага народа?

Людміла Сторaж,
Нароўля.

* * *

У часопісе «Искусство кино» (можаце ўзяць 8-мы нумар) я пытаю ў А. Сахарава: «Скажыце, ці праўда, што радыяактыўныя аблокі былі расстраляныя?». Ён без усялякіх «магчыма» адказаў: «Праўда, гэта так і было»... Калі я пісаў пра гэта ў «Комсомолке», я ведаў, што пачнуць хлусіць. Тут жа Ізраэль на Зьезьдзе, калі яго выбіралі, сказаў, што нічога падобнага не было.

А. Адамовіч.

* * *

Барані Бог прысутных тут жанчын і мужчын, якія маюць дзяцей, пачуць ад медыкаў: у вашага дзіцяці анемія, у вашага дзіцяці павялічылася пячонка, у вашага дзіцяці вострая рэсьпіраторная хвароба, якую немагчыма вылекаваць за тры, пяць, дваццаць дзён. Людзі ў нас хварэюць на такія хваробы, якіх раней не было: баляць косьці, рэзка зьніжаецца зрок. Людзі прыходзяць на працу і сьпяць. Дзеці ў школах сьпяць. Апатыя ў людзей наступае.

Натальля Нікіценка,
Брагін.

* * *

У нас у раёне да 1986 году нараджалася двое дзяцей з паталагічнымі зьменамі. Зараз — да 8 чалавек у год.

Алег Грамыка,
Ветка.

* * *

За 6 месяцаў гэтага году з раёну выехала больш за тысячу чалавек. Хто гэта ў асноўным? Механізатары, сьпецыялісты сярэдняга зьвяна. Відавочны развал інфраструктуры раёна.

Фелікс Шкірманкоў,
Слаўгарад.

* * *

У жніўні да нас прыязджала дзяржаўная камісія. На яе пытаньне сакратару Веткаўскага райкаму партыі: ці карыстаецеся вы «Руководством по ведению сельскохозяйственных работ», якое зацьверджана 23 траўня 1988 Дзяржаграпрамам БССР,— ён катэгарычна адказвае: не, такога «Руководства» мы не атрымлівалі. Я кажу: Мікалай Іванавіч, гэтае «Руководство» — буквар для аграномa: дзе можна сеяць, дзе нельга, дзе можна жыць, дзе нельга, усе нормы і дазіроўкі... Пасьля, на тэлевізіі старшыня Дзяржкамісіі задае гэтае пытаньне першаму сакратару абкаму партыі А. Камаю. Той катэгарычна адказвае: такога «Руководства» вобласьць не атрымлівала... Для даведкі: Дзяржаграпрам БССР гэтае «Руководство» ў колькасьці 1000 асобнікаў разаслаў ва ўсе вобласці Беларусі. Зараз яно ёсьць у кожнай гаспадарцы — ці ў галоўнага агранома, ці ў кіраўніка гаспадаркі. Зь якой мэтай А. Камай утойвае пра гэта, я ня ведаю.

Мікалай Глыбаў,
Ветка.

* * *

Я рабочая садавіна-кансервавага завода. Кожную раніцу раблю сокі і дзіцячае пюрэ. Зь яблыкаў, якія нам прывозяць з заражанай зоны. З Чудзянаў, Вепрына, Малінаўкі, дзе нельга жыць людзям. Чарнаплодную рабіну, якую наогул нельга зьбіраць, мы пусьцілі ў сок. Хто п'е гэта? Вы і вашыя дзеці. Чуеце, што я вам гавару?

Марыя Шабуневіч,
Чэрыкаў.

* * *

На комплекс у вёсцы Лубень-Брацкая, які будуецца ужо два гады, пайшло 16 мільёнаў рублёў. А вёска ўжо зачыненая, і людзей трэба высяляць. Грошы, якія з такой цяжкасьцю выдзяляюцца на ліквідацыю аварыі, бяздумна закопваюцца ў зямлю. На будаўніцтва набярэжнай у Нароўлі, што пачала ўзводзіцца ўжо пасьля Чарнобыля, пайшло таксама нешта каля 16 мільёнаў рублёў. Колькі тысяч выкінута на будаўніцтва мыйкі за вёскай Ласка? Так і кінутай, недабудаванай. А калгасны рынак у Нароўлі? Што на ім прадаваць? А школа мастацтваў? А ёсьць жа яшчэ сумны досьвед правядзеньня вадаправода, асфальтаваньня вуліц, дэзактывацыі. Чаму ж не аб'яднaлі гэтыя сродкі на будаўніцтва самага неабходнага — жытла ў чыстай зоне?

Л. Сторaж.

* * *

Як праводзяць дэзактывацыю? Прыязджаюць салдаты і новы шыфер кладуць на стары дах. Але калі на брудную галаву надзець чысты капялюш, ад гэтага галава ня стане чысьцейшая. Да старых платоў прыстаўляюць новыя. Старыя не здымаюць...

М. Глыбаў.

* * *

Сёлета ў верасьні было праведзенае абсьледваньне дзяцей з нашай невялікай Сівіцкай школы Валожынскага раёну. У іх выявілася ў тры-чатыры разы большая доза апраменяненьня, чым у гомельскіх або магілёўскіх дзяцей. Ва ўсіх — павелічэньне вальляку другой і трэцяй ступені. Зараз палова нашай школы эвакуяваная ў Пухавічы.

Тэрэза Келер, в. Сівіца
Валожынскага р-ну.

* * *

Я считаю, что в той зоне, которую определили белорусские ученные, традиционное сельское хозяйство развиваться не может. Я полностью поддерживаю белорусских ученых. Но в то же время там можно заниматься сельским хозяйством на другом технологическом уровне. Это должны делать только те, кто хочет это делать добровольно... Послушайте... Послушайте... Когда я говорю о другом сельском хозяйстве, на другом технологическом уровне, я говорю, что если кто-то захочет... Я же вас не заставляю... Если найдется кто-то... Включая и потребление всех продуктов, которые там будут производиться... Неправда... Заставить «добровольно» — это чушь...

Яўген Веліхаў,
народны дэпутат СССР.

* * *

Хачу зьвярнуць увагу на палітычны асьпект таго, што адбываецца. Калі нашыя палітычныя дзеячы і кіраўнікі Рэспублікі гавораць, што самае каштоўнае — чалавечае жыцьцё, дык, прабачце, у большасьці выпадкаў гэта — хлусьня. Бо самае таннае ў нас менавіта чалавечае жыцьцё. І менавіта чалавечым жыцьцём мы хочам разьлічвацца за ўсё. Таму што грошай у нас няма, а чалавечае жыцьцё ёсьць, і яно ніяк у нас не ацэненае.

С. Шушкевіч.

* * *

Для вучоных Беларусі перастае быць сакрэтам, што ў раёнах, якія найбліжэй знаходзяцца да пляцоўкі станцыі, пачынаюцца вельмі значныя зьмены ў стане крыві, расьце лічба храмасомных аберацыяў. Гэтыя паказчыкі сьведчаць пра магчымасьць спантанных саматычных і генетычных мутацый. Выяўлена, што пачасьціліся выпадкі ішэмічнай хваробы, інфарктаў, бранхітаў і танзілітаў. Іх колькасьць павялічылася ў некалькі разоў. Выяўлена, што ў тых раёнах, якія падпалі пад узьдзеяньне радыяцыі, зьявілася шмат выпадкаў інваліднасьці. Гэтым яны моцна адрозьніваюцца ад г. зв. «чыстых» раёнаў. Вось тут і ўзьнікае найбольш сур'ёзнае пытаньне: магчыма людзі там атрымалі ў шмат разоў большыя дозы, чым тыя, якія называюцца сьпецыялістамі Міністэрства ахвовы здароўя?

Міхась Малько,
вядучы супрацоўнік Ін-та ядзернай энергетыкі АН БССР.

* * *

Якімі дадзенымі карысталіся, калі падлічвалі дозу апраменяненьня жыхароў Нароўлі ў першыя чатыры дні пасьля аварыі? Колькі рэнтген у гадзіну было зафіксавана ў тыя дні ніхто ня ведае. На адным зь пленумаў гаркама партыі былы старшыня калгасу «Савецкая Беларусь» тав. Партыка гаварыў, што на сенакосе ў 1986 годзе дазіметр паказаў 900 мілірэнтген у гадзіну. Паўторная праверка на наступны дзень пацьвердзіла дадзеныя. Ня трэба быць сьпецыялістам, каб палічыць, што за 10 гадзін працы на лузе людзі атрымалі па 9 бэр.

Л. Сторaж

* * *

Вядома, што чым меншая будзе магутнасьць выпраменьваньня, тым эфект пры аднолькавай атрыманай дозе будзе больша. Набраныя ва ўмовах інтэнсіўнага апраменяненьня (напрыклад, у рэнтгенаўскім кабінеце) 35 бэр — гэта зусім ня тыя 35 чарнобыльскіх бэр ад апраменяненьня малой магутнасьці. Калі там быў 0,1% па раку, дык тут можа быць 30%. Але, каб канчаткова пераканацца, трэба пражыць тыя 70 год. Натуральна, што ані акадэмік Ільін, ані хто іншы проста не дажыве, каб праверыць гэта...

Пры малых магутнасьцях радыяцыі ў першую чаргу мы гаворым пра хваробы, зьвязаныя з парушэньнем імуннай сістэмы: гэта звычайныя хваробы сэрца, гэта грып, гэта пнеўманія, гэта ўсё, што заўгодна. І гэта будзе, вядома, сьпісвацца не на нейкія сьпецыфічныя радыяцыйныя захворваньні.

Алег Шадыра,
доктар хімічных навук.

* * *

Учора па тэлебачаньні (маецца на ўвазе выступ Я. Сакалова на канферэнцыі прадстаўнікоў працоўных калектываў. — Рэд.) я са зьдзіўленьнем даведаўся, што гэта навукоўцы перашкаджаюць рабіцца таму, што павінна рабіцца: спрачаюцца, ня ведаюць дакладна, што адбылося, і тым самым затрымліваюць прыняцьце неабходных рашэньняў. Я з упэўненасьцю заяўляю, што ў кастрычніку 1986 года дадзеных было дастаткова, каб прыняць адпаведныя меры. І чым болей мы вывучаем, што адбылося, тым страшней нам, дасьледчыкам, робіцца. Паўднёвыя раёны Гомельскай вобласьці забруджаныя ня проста радыяактыўнымі ізатопамі, а ў значнай ступені мікраскапічнымі кавалкамі ядзернага паліва — «гарачымі часьцінкамі». Іх прыходзіцца ад 10 да 100 млрд. штук на кв. км. Досьледы на лёгкіх чалавека (быў узяты трупны матэрыял) паказалі, што такіх часьцінак выяўлена па некалькі тыс. на 1,5—2 кг... Я не радыёлаг, але магу спаслацца на амерыканскіх навукоўцаў, якія правялі падобныя досьледы на сабаках, яны сьцвярджаюць: 2 тыс. часьцінак у лёгкіх — 100-працэнтны рак...

Як зрабіць так, каб людзі, якіх мы перасялім і ў якіх у арганізме знаходзяцца «гарачыя часьцінкі»... Каб яны былі нараўне з намі... Каб яны жылі столькі ж... Ім жа трэба асаблівая медыцынская абслуга, асаблівы кантроль... А гэта будзе датычыцца не 10 і не 100 тыс., як мы гаворым, гэта можа датычыцца мільёна людзей Беларусі.

Яўген Пятраеў,
прафесар, доктар хімічных навук.

* * *

Калі мы гаворым пра беларускую нацыю праз 20, 40, 60 гадоў, мы цалкам можам прагназаваць самыя жудасныя наступствы: наш народ стане нацыяй пракажоных. Ужо цяпер дзеці, якія з заражаных зонаў выязджаюць на адпачынак за межы Рэспублікі, трапляюць у ізаляцыю. Я назаву толькі самую мяккую мянушку з тых, якія яны там атрымліваюць—«чернобыльские ежики»...

Г. Грушавы.

* * *

Чарнобыль — гэта палітычная драма нашага часу. Яе галоўныя дзейныя асобы на тое і разлічваюць, што праз дзесяць, пятнаццаць, дваццаць гадоў яны пойдуць у іншы сьвет, а зь мёртвых не спытаеш. Таму я лічу, што менавіта цяпер вышэйшыя пракурорскія інстанцыі павінны распачаць сьледзтва. Неабходна выявіць, хто вінаваты ва ўтойваньні інфармацыі, якая будзе аплочана здароўем і многімі тысячамі жыцьцяў. Ва ўсім, што адбывалася і адбываецца можна пэўна бачыць склад злачынства: і злачыннай нядбайнасьці, і злоўжываньня службовым становішчам у карысьлівых або кар'ерысцкіх меркаваньнях.

У Асновах грамадзянскага заканадаўства СССР і Грамадзянскім кодэксе БССР прадугледжанае таксама права грамадзянаў патрабаваць кампенсацыі шкоды, якое вынікае з акалічнасьцяў нанясеньня шкоды. Толькі ім амаль ніхто не карыстаецца. Падобны іск можа падаць і дзяржаўны орган або грамадзкая арганізацыя. Напрыклад, Беларускі Народны Фронт, але яму ўпарта адмаўляюць у праве атрымаць статус юрыдычнай асобы. Мы не павінны задавальняцца падачкамі, г. зв. «грабавымі», і потым яшчэ захоплена дзякаваць партыі і Ураду за праяўлены пра нас клопат.

Мікалай Ігнатовіч,
народны дэпутат СССР.

* * *

Ёсьць такі страшны, але выразны вобраз: зь дзесяці атамных бомбаў, якія скінуў Чарнобыль, сем узарваліся на Беларусі. Узарваліся, і ніхто не пачуў. Ніхто не пачуў ва ўсім сьвеце.

А. Адамовіч.

* * *

Мы павінны задаць сабе пытаньне: чаму тры гады пра нас маўчалі, і мы самі ня ведалі, што з намі адбываецца? Арменіі дапамагаў увесь сьвет. Дык чаму ж пра нас ніхто ня ведаў? Я думаю, справа ў тым, што нас перасталі лічыць за народ... Я хачу засяродзіць увагу на тым, наколькі важна быць нацыянальна сьвядомым, культурна сьвядомым, ведаць сваю гісторыю, мову. Гэта зарука ня толькі нашага духоўнага жыцьця, але нашага жыцьця фізічнага і нашага жыцьця вечнага... Хто прынёс сьвечкі, прашу запаліць іх — няхай гараць...

З. Пазьняк.

МАРТЫРАЛОГ

**Пададзеныя ніжэй ўспаміны належаць былому разьведчыку, а потым шматгадоваму вязьню сталінскіх засьценкаў Дзьмітрыю Быстралетаву. Яны датычацца апошніх дзён жыцьця Аляксея Наседкіна, наркама ўнутраных справаў Беларусі з траўня 1937 па студзень 1938. Беларускі пераклад цалкам адпавядае старонкам 117—126 рукапісу: Д. А. Быстролетов. Пир бессмертных: Книги о трудном, жестоком и великолепном времени. — Кн. 1. Залог бессмертия. — Суслово, весна 1945 — Москва, апрель—июнь 1965, (200 С.), які захоўваецца ў Публічнай бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына. Тэкст «Беларускі фрагмент» дасланы на адрас «Мартыралога Беларусі» бібліёграфам А. Розумавым, за што выказваем яму шчырую падзяку.**

**Дзьмітры Быстралетаў**

# БЕЛАРУСКІ ФРАГМЕНТ

Аднойчы ноччу дзьверы з рыпеньнем расчыніліся, і ў пакой ледзь трымаючыся ўвайшоў зьнясілены мужчына няпэўнага веку са змучаным хударлявым тварам.

— Аляксей Іванавіч Наседкін, — адрэкамендаваўся ён нежывым голасам і зваліўся на ложак.

Я назваў сябе і сьцісла распавёў сваю гісторыю.

Новы сусед трошкі пажывеў і, зь цяжкасьцю пераведшы дых, загаварыў.

— Апошнім часам я быў наркамам унутраных справаў на Беларусі... Зьмяніў там вашага Барыса Бермана... Ён пасьля пераводу з Маскоўскага ЗА (замежны аддзел. — Рэд.) працаваў некалькі месяцаў у Менску... Потым яго арыштавалі.... На зьмену прыслалі мяне... Барыс ужо расстраляны... Мая справа скончаная... Хутка расстраляюць і мяне... Ну, а калі вас трымаюць са сьмертнікамі, зь Дзьякавым і са мною, дык, відавочна, прыйдзе час, расстраляюць і вас... Лагічна? Нам усім прыгатаванае адно і тое, толькі кожнаму ў свой час. Будзем чакаць сьмерці пакуль што разам... Хутка мяне забяруць, і вы застанецеся адзін... Але нядоўга...

Нельга сказаць, каб новы таварыш супакоіў і ўзрадаваў мяне такімі размовамі. Нашыя ложкі стаялі насупраць, і я быў вымушаны цэлы дзень глядзець на яго. Гэта быў чалавек, як кажуць, звычайны і непрыкметны: нібыта ўсё ў яго было ў наяўнасьці, але запомніць колер вачэй і форму носу я ня здолеў. Заплюшчу вочы — і нічога няма, нейкі непрапечаны блін, нейкая шэра-жоўтая пляма. Пра сябе ён гаварыць не любіў, але калі маўчаньне рабілася невыносным, бавіў сябе і мяне аповядамі пра Барыса, якога мы абодва добра ведалі.

— Аднак у Менску гэта быў ужо ня той Барыс, якога вы калісьці сустракалі ў Берліне, і нават ня той, у якога часта паседжвалі ў кабінеце на Лубянцы.

Я ўзгадаў высокага, стройнага, надзвычай маладжавага мужчыну, улюбёнца жанчын, заўсёды вясёлага, энергічнага, дасьціпнага кіраўніка сваіх і чужых шпіёнскіх інтрыг. Барыс прываблівае ўсіх сваёй жыцьцярадаснасьцю, сяброўскай прастатой, гатоўнасьцю дапамагчы ў бядзе.

— У Менску гэта быў сапраўдны д'ябал, які выскачыў з апраметнай, — вяла мармытаў Аляксей Іванавіч, пазіраючы ў нішто. — Ён адразу ж пасівеў, згорбіўся, высах. Мой дзядзька памёр ад рака пячонкі, дык вось Берман тады штодня мяняўся, нібыта ракавы хворы. Барыс сохнуў літаральна на вачах і вакол сябе распаўсюджваў сьмерць. Ён сам быў ракавай пухлінай на Беларусі... Дзьмітрый Аляксандравіч?

— Што?

— Слухайце, Барыс расстраляў у Менску за два з паловай месяцы больш васьмідзесяці тысячаў чалавек. Чуеце?

— Чую.

— Ён забіў усіх лепшых камуністаў Рэспублікі. Зрэзаў верхавіну савецкага апарату. Вынішчыў цьвет беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі. Старанна вышукваў, знаходзіў і нішчыў усіх, хто хоць трошкі вылучаўся розумам ці адданасьцю — стаханаўцаў на заводах, старшыняў калгасаў, лепшых брыгадзіраў, пісьменьнікаў, навукоўцаў, мастакоў. 80000 нявінных ахвяраў... Гара залітых крывёю трупаў, якая ўздымаецца да нябёсаў...

Мы сядзелі на ложках адзін насупраць аднаго, я, прыціснуўшыся сьпінаю да сьцяны, неадрыўна пазіраючы на страшнага суразмоўцу, ён, сагнуўшыся ў крук, абыякава паклаўшы рукі на калені і галаву на грудзі.

— Вам, вядома, дзіўна, як змог Барыс арганізаваць такую бойню? Я растлумачу. Па суботах ён наладжваў вытворчыя нарады. На сцэну па загадзя падрыхтаваным сьпісе выклікаліся шэсьць сьледчых: тры лепшых і тры горшых. Барыс пачынаў так: «Вось лепшы зь лепшых работнікаў, Іваноў Іван Мікалаевіч. Падніміцеся, таварыш Іваноў, каб астатнія вас добра бачылі. За тыдзень таварыш Іваноў скончыў сто справаў, сорак зь іх — на вышэйшую меру, а шэсьцьдзесят — на агульны тэрмін у тысячу гадоў. Віншую вас, таварыш Іваноў. Дзякуй! Сталін пра вас ведае і памятае. Вы прадстаўлены да ўзнагароджваньня ордэнам, а зараз атрымайце грашовую прэмію пяць тысячаў рублёў! Вось грошы. Сядайце!».

Потым Сямёнаву выдавалася тая ж сума, але без прадстаўленьня да ордэну, за завяршэньне сямідзесяці пяці справаў з расстрэлам трыццаці чалавек і агульным тэрмінам для астатніх у семсот гадоў. І Мікалаеву — дзьве тысячы пяцьсот рублёў за дваццаць расстрэлаў і пяцьсот гадоў агульнага тэрміну. Зала сатрасалася ад воплескаў, шчасьлівыя ганарліва разыходзіліся на свае месцы. Наступала цішыня. Твары ва ўсіх выцягваліся, бялелі. Рукі пачыналі дрыжэць. Раптам у мёртвай цішыні зьвінеў голас Барыса, які гучна называў прозьвішча: «Міхайлаў Аляксандр Сьцяпанавіч, падыдзіце сюды, да стала».

Агульны рух. Усе паварочваюць галовы. Адзін чалавек няўпэўненымі крокамі ідзе наперад. Твар скрыўлены ад жаху, шырока расплюшчаныя вочы нічога ня бачаць. «Вось Міхайлаў Аляксандр Сьцяпанавіч! Глядзіце на яго, таварышы! За тыдзень ён скончыў тры справы. Ніводнага расстрэлу, прапануюцца тэрміны на пяць і сем гадоў».

Барыс павольна паварочваецца да няшчаснага. Глядзіць на яго вочы ў вочы. Хвіліна. Яшчэ хвіліна. «Я...» — пачынае сьледчы. «Варта! Забраць яго!». Сьледчага выводзяць. Ён ідзе між салдатаў пакорліва і ціха. Толькі ў дзьвярах абарочваецца: «Я...».

«Высьветлена, — рэзка кажа Барыс, пазіраючы ў прастору паверх галоваў, — высьветлена, што гэты чалавек завербаваны нашымі ворагамі, якія намагаюцца сарваць работу органаў, сарваць выкананьне асабістых заданьняў таварыша Сталіна. Здраднік будзе расстраляны!» Потым Пятроў і Сідараў атрымліваюць строгія папярэджаньні за дрэнную работу, бо за тыдзень яны толькі па ча-

лавеку паслалі на расстрэл, а на вялікія тэрміны— чалавек па дзесяць. «Усё, — Барыс устае. — Няхай гэта стане папярэджаньнем для кожнага. Калі вораг не здаецца, яго зьнішчаюць».

Менавіта так ён тэрарызаваў свой апарат, запалохваў яго да сьмерці. А потым можна было выконваць усё. Часам выклікалі цяжкасьці тэхнічныя пытанні: як, скажам, арганізаваць усё так, каб насельніцтва менш ведала пра тое, што адбываецца.

Іэноў маўчаньне, якое перапыняецца толькі мірным сакатаньнем цвыркуна.

— А колькі вы самі расстралялі, Аляксей Іванавіч? Тысячаў сто? Болей?

— Ды я што... — вяла шморгае носам Наседкін, — я, вядома... Аб'ектыўныя варункі, так бы мовіць... Работа ёсьць работа, калі хочаце, я раскавяду, як рабіўся забой? Тэхніку, так бы мовіць, раскрыю. Калі сярэдняя даўжыня цела мужчыны прыкладна 170 сантыметраў, вышыня ад сьпіны да грудзей 30 сантыметраў, а шырыня ў плячах, скажам, 40 сантыметраў, дык, ведаючы колькасьць забітых Берманам, можна вылічыць неабходную кубатуру магіл. Давайце лічыць: 80 тыс. на 170, гэта атрымаецца...

Я не вытрымліваю.

— Хопіць. Скончыце потым, Аляксей Іванавіч. Не магу болей.

Наседкін сядзіць сагнуўшыся. Я ня бачу ягонага твару, падобнага на недапечаны блін, бачна толькі лысая макаўка — яна нібыта апшчэрваецца супраць мяне. Я ўздрыгваю, потайкам шчыкаю свае далоні, заломваю пальцы, так лягчэй, гэта адцягвае ўвагу.

— Зараз я вам раскажу пра адну дэталь, якая мучыла мяне больш за ўсё, пра штодзённы ранішні званок з Масквы. Кожны дзень аб адзінаццатай гадзіне раніцы па прамым провадзе я быў абавязаны паведаміць колькасьць арыштаваных на раніцу гэтага дня, колькасьць скончаных справаў, колькасьць расстраляных і колькасьць асуджаных як агульную, гэтак і па групах. Масква заўсёды любіла і любіць дакладнасьць ва ўсім. Сацыялізм ёсьць улік. Я прыходзіў на паўгадзіны раней і нагбом выпіваў шклянку каньяку, нічога іншага рабіць ня мог. Паперка з калонкай лічбаў ужо ляжала на стале. Дакладна аб адзінаццатай раздаваўся званок, і чыйсьці абыякавы голас папярэджваў: «Падрыхтуйце тэлефанаграму». Шчоўканьне і шоргат пераключэньня. Нарэшце гартаннае, хрыплае: «Ну?». І я мармытаў лічбы ва ўстаноўленым парадку, адну за адной, без аніякага каментару. Клаў трубку. Пытаньняў ніколі не было. Хвілінаў пяць сядзеў у крэсьле нерухомы, не было сілаў. У вушах усё яшчэ гучала жахлівае: «Ну?» Потым я выпіваў другую шклянку каньяку, з палёгкай уздыхаў і браўся за работу.

— Каму ж належаў гэты гартанны голас?

Наседкін доўга маўчаў.

— Ня ведаю. Я быў занадта маленькім чалавекам, каб сам гаспадар мог патэлефанаваць мне. Наркам Беларусі — гэта ўсяго толькі начальнік вабласнога ўпраўленьня. Але вобласьць нашая была няпростая, вось у чым сутнасьць. І справы ў ёй пасьля прыезду Маленкова іінсьпіраванага ім дасьледваньня аб масавым здрадніцтве таксама выршыліся няпростыя. Баюся думаць... Ня ведаю... Ня ведаю...

Так да адбою плыве нашая ледзь чутная гутарка, якая раз-пораз перапыняецца фразай-выбачэньнем:

— Я кажу вам гэта, Дзьмітрый Аляксандравіч, таму што хутка памру ня толькі я, але і вы. Тут няма ніякага парушэньня, усё застанецца шытакрыта...

Аднойчы раніцай мы вярнуліся з прыбіральні, і Наседкін, паружавелы, са зьзяньнем у вачах, перарывіста зашаптаў:

— Пашанцавала! Каля стульчака я знайшоў вось гэта!

І ён паказаў мне іржавы востры аскабалак.

— Кавалачак плявацельніцы! Шанцунак?! А?

Я непаразумела паціснуў плячыма.

— Не зразумелі? Гэтым можна перарэзаць сабе вены! Разумееце? Сёньня ноччу гэта зраблю я. Я знайшоў яго. Вы потым, у другую чаргу.

— Я і не спрачаюся.

— Вы будзеце варочацца на ложку і адцягваць увагу дзяжурняка! Згода? Дайце руку!

На гэты раз шэрага бліна не было. Пачырванелы твар адлюстроўваў унутранае хваляваньне, радасьць, зларадн асьць, панаваньне, магчыма, нават шчасьце.

Увечары пасьля адбою я стаў назіраць за вочкам у дзьвярах: як толькі зьнікала шэрая паверхня накрыўкі і колца вочка рабілася цёмным ад вока наглядчыка з другога боку жалезных дзьвярэй, я рабіў які-небудзь знак — закідваў руку, піўваду. Наседкін ляжаў на сьпіне з падкрэсьлена адкрытым тварам. Правай рукою пад коўдрай ён рэзаў скуру і вену левай рукі. Прайшла гадзіна.

— Ну што?

— Справа ідзе.

Прайшла яшчэ гадзіна.

— Ну як, Аляксей Іванавіч?

— Скура гатовая, аднак перапілаваць вену не магу, сьлізкая, сволач, выкручваецца з-пад аскабалка!

Прайшла трэцяя гадзіна.

— Дзьмітрый Аляксандравіч, — зашаптаў Наседкін, — зараз я засуну палец у рану, падцягну вену, выцягну яе наверх і перакушу. Гэта займе хвіліны дзьве. Як толькі попка зазірне ў вочка, я пачынаю. Падрыхтуйцеся!

Я варухнуўся і закашляў, усё было натуральна, і вочка зачынілася. Наседкін на колькі секундаў засунуў галаву пад коўдру. Потым выцер крывю з вуснаў і падбародзьдзя і зноў выцягнуўся на сьпіне.

— Ну?

— Парадак. Перакусіў. Крывя хвошча ва ўсю.

Яшчэ хвілінаў праз дзесяць Наседкін не адказаў на пытаньне. «Памёр», — падумаў я з палёгкай і імгненна заснуў. Пад раніцу некалькі наглядчыкаў уварваліся ў камеру, адкінулі коўдру і ўбачылі ўсё. Крывя прапітала тоненькі матрац і пачала капаць на падлогу, а потым чырвоная дарожка папаўзла да дзьвярэй і выдала Аляксея Іванавіча. «Позна», — вырашыў я, паглядзеўшы на воскавы твар Наседкіна, калі яго выносілі. Да пад'ёму заставалася яшчэ з гадзіну, і я заснуў.

А праз тыдзень Аляксей Іванавіч зноў зьявіўся ў камеры: «гуманныя медыкі» ўратавалі яго, не дазволілі арыштаванаму абкрасьці правасудзьдзе. На гэты раз Наседкін сядзеў моўчкі — ён быў слабы. Напэўна, ад страты крыві. Толькі аднойчы ён надумаў вылічаць уголас месячны прыбытак сакратара абкама, не аклад — а ўсе законныя і напаўзаконныя прыбыткі наогул: пражываньне ў кватэры, на лецішчы, на курорце, кошт сьпецпайка, рэальнага і схаванага і г. д., уключаючы негалосную аплату выдаткаў сваякоў, якія як маглі цягнулі зь дзяржаўнага карыта. Атрымалася кругленькая лічба ў дваццаць тысячаў рублёў штомесячна.

— А вы? Колькі каштавалі дзяржаве Барысавы восемдзесят тысячаў і вашых сто?

— Ды я што... — мыкнуў Аляксей Іванавіч. — Аб'ектыўна я... — і сьціішыўся.

Ён умеў і любіў лічыць толькія чужыя злачынствы. Гэта быў узорны апаратчык таго часу.

Праз тыдзень уначы дзьверы расчыніліся. За сьпіной дзяжурнага наглядчыка змрочна стаялі чатыры касталомы.

— Хто на «нэ»?

Забыўшыся на адказ, мяне і свае рэчы, ён дробна затрухаў да дзьвярэй. Але не дайшоў да касяка. Моцныя рукі сустрэлі яго, падхапілі і выцягнулі прэч. Дзьверы бразнулі. Я зноў застаўся адзін.

**Пераклад І. Л.**

## СКРЫНКА 327

Уведомление телеграфом: «Друзья, приветствуем в лице правления Народного Фронта белорусское народное движение, которое в тяжёлых условиях борется за развитие демократии. Общенациональное движение, армянский народ искренне благодарят вас за оказываемую лидеру НФ АРЦАХА НКАО Аркадию Манучарову поддержку. Наша сила в единстве. **Комитет армянского общенационального движения. Егизарян Борис. Ереван.**

«У нас на Азарыцкім выбарчым участку 30 ліпеня 1989 года зь вялікім натхненьнем наменклатурныя чыноўнікі вобласьці правялі найцішэйшыя безальтэрнатыўныя выбары ў Вярхоўны Савет БССР. Замест выбылага другога сакратара Гомельскага абкама выбраны першы сакратар таго ж абкаму Аляксей Камай. Ён наабяцаў сваім выбаршчыкам, каб яго толькі выбралі, залатыя горы ды рэчкі, поўныя віна без радыяцыі, а ягоныя памочнікі пікетавалі аўтадарогу (шашу) Калінкавічы—Бабруйск, не дай бог «нефармалы» прыедуць і другі раз пракоцяць тав. Камая. Праціснулі-такі яго праз Азарыцкую выбарчую шчыліну, а там, з той самай дапамогай, і ў ЦК КПБ сакратаром. Вось вам і перабудова: замест таго, каб прыцягнуць да крымінальнай адказнасьці за злачыннае бязьдзеяньне пад час і пасьля Чарнобыльскага кашмару, яго, як і верхніх паплечнікаў, тварам — ой, прабачце, калі ласка, — другім месцам да цяплейшага крэсла — месца». **С. Палескі**, пасёлак Азарычы.

«З. Пазьняк — выдатны прамоўца. Але ў выступах адчуваецца злоба, а павінна адчувацца дабрыня, упэўненасьць. Упэўненасьць праваты. Народу патрэбны лідэр. Зараз час пустаты і яе трэба запоўніць. А кім? Народу трэба зрабіць выбар, ён пойдзе за тым, хто захопіць сваёй ідэяй.

Уважліва слухаю выступы прыбалтыйцаў: яны захапляюць сваёй культурай, лагічнасьцю выступаў, глыбокім веданьнем таго, пра што кажуць, і дабрынёй — злосьці ў іх не адчуваецца...» **М. Ганчарова, Менск.**

Электрамеханік менскага заводу імя Вавілава **А. Тупіца** дзеліцца з намі сваімі прагнозамі разьвіцьця сітуацыі ў краіне: «Каб апраўдаць няздольнасьць кіраўніцтва, ідэалагічная прапаганда шукае вінаватых, усе дэмакратычныя рухі называюцца экстрэмісцкімі, нацыяналістычнымі, ворагамі перабудовы. Усё гэтае шальмаваньне, а таксама стварэньне «часовых камітэтаў», рабочай міліцыі і адсутнасьць да цяперашняга часу законаў, што гарантавалі б бясьпеку і правы грамадзян, а таксама кантроль за іх выкананьнем з боку народа, робіць магчымае паўтарэньне сталінскага тэрора». Далей, аналізуючы 72-гадовае існаваньне СССР, аўтар выказвае свае адносіны да марксісцка-ленінскага вучэньня, відавочна не марнуючы шмат часу на падбор эпітэтаў. Аддаючы належнае аналітычнаму мысьленьню А. Тупіцы і пакідаючы за карэспандэнтам аўтарскае права ў выбары дэфініцыяў, рэдакцыя была, аднак, засьпетая неспадзеўкі наступнай прыпіскай: «Пасьля канфлікту ў 1987 г. з адміністрацыяй заводу я хачу зьехаць у ЗША. Нашыя адпаведныя інстанцыі выезд мне не дазваляюць з-за адсутнасьці выкліку. Я напісаў больш як 15 лістоў у пасольства ЗША, але адказу не атрымаў: я лічу, што гэтыя лісты туды не даходзяць. Таму прашу вас дапамагчы мне разабрацца: хто ж мяне не пускае зьехаць — СССР ці ЗША — і дапамагчы зьехаць».

Мусім расчараваць шаноўнага сябра: рэдакцыя лічыць, што калі кватэру апанавалі прусакі, трэба не мяняць жытло, а браць у рукі дыхлафос. БНФ гатовы прапанаваць сваю дапамогу ў распрацоўцы методыкі дэзінфекцыі памяшканьня.

**А. Раманоўскаму**, які апавядае пра свае блуканьні па кабінетах райвыканкаму, гарвыканкаму, аблвыканкаму, абкаму г. Гародні ў марных намаганьнях аддаць сваю дачку ў беларускамоўны клас па месцы жыхарства, прыходзяць у сувязі з гэтым на памяць словы К. Каліноўскага: «У нас, дзяцюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па маскоўску, а то для таго, каб цябе заўсім перарабілі на маскаля...» («Мужыцкая праўда» № 4). «Ніколі ня ўзьнікла б пытаньне пра беларускамоўны клас,— дзеліцца А. Раманоўскі сваімі думкамі, — каб нашыя вышэйшыя навучальныя ўстановы былі беларускамоўныя, каб беларуская мова была дзяржаўнай. Нават абхазцы, не зарэгістраваныя ў ААН як нацыя, маюць вышэйшыя навучальныя ўстановы на роднай мове...».

**І. Падгарадзецкі** са Слоніму, **В. Галуза** з Навасібірску, **І. Грыгаровіч** са Смалявічаў, **В. Коваль** са Пскову, **С. Асіпенка, В. Гладышаў** зь Менскай вобласьці, **Б. Шыціна** з Омску, **А. Уладзіміраў і А. Сіняўка** зь Менску просяць дапамагчы ім з падпіскаю на «Навіны». Ваша просьба, шаноўныя сябры, будзе задаволеная.

**Падрыхтавала Алена Радкевіч.**

## АБ'ЯВЫ

Бажаючим приняти участь у створенні **культурно-освітного Товариства українців,** які проживають у Білорусії, просимо звертатись на адресу: 220020, Мінськ-20, а/я 78, Малько Вік. Мик.

Ініціативна група по створенню Товариства.

**Грашовыя паштовыя пераводы для БНФ «Адраджэньне»** просім накіроўваць на адрас: 232012, Вільнюс, вул. Жырмуну, 106. Ашчадная каса № 8289/059, код банку 751627, разьліковы рахунак 164505, ашчадная кніжка № 9671. Стэху Валянціну Уладзіслававічу. (Рахунак адкрыты ў Літве, бо там больш надзейна).

**Працягваецца падпіска на «Навіны БНФ»** і іншыя незалежныя выданьні Беларусі («Абуджэньне», «Шлях», «Кантакт», «Студэнцкая думка», «Супольнасьць», «Прамень», «Рэанімова», «Весткі Адраджэньня», «Літаратура», «Хрысьціянскія навіны», «Праваслаўная думка», «Голас Беларуса» і інш.). Усім жадаючым прапануем паштовым пераводам дасылаць 5 руб. адказнаму за падпіску сябру Сойму БНФ Бяляцкаму Аляксандру Віктаравічу на адрас: 220100, вул. Ф. Скарыны, 3—55. Просьба зваротны адрас пісаць дакладна і ахайна. Пасьля таго, як на дасланыя грошы будзе адпраўленая адпаведная колькасьць выданьняў (улічваецца кошт выданьня і перасылкі), пра працяг падпіскі вы атрымаеце паведамленьне.

**Прыдбаць літаратуру БНФ «Адраджэньне»** можна ў Доме літаратара па адрасе Менск, вул. Фрунзе, 5, кабінет № 306. Тэл. 36-99-72. Праезд метро да станцыі «Плошча перамогі».

Згуртаваньне Беларускай Моладзі ў Латвіі «Воля» на неабмежавана працяглы тэрмін **здыме** кватэру ў Менску (з усімі выгодамі і на любых умовах).

Зьвяртацца: 226048, Рыга-48, Азенес-22, к. 710 В. Паўловіч Вадзім.

Рэдакцыя прыносіць прабачаньне за шматлікія друкарскія памылкі ў «Навінах» 13' 1989.


НАВІНЫ

**Нумар падрыхтаваны рэдакцыйнай калегіяй БНФ «Адраджэньне». Рэдактар Алесь Суша.** Адрас для карэспандэнцыі: 220113, Менск-113, абанементная скрыня 327. Нагадваем, што бяз Вашых ахвяраваньняў выданьне «Навінаў» стане немагчымае. Меркаваньне аўтараў публікаваных матэрыялаў не абавязкова супадае зь меркаваньнем рэдакцыі і кіраўніцтва БНФ. Высокі друк. Фармат 1 друкаваны аркуш. Наклад 10 000. Заказ № 3. Друкарня Марціна Кухты.